


ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ
№2(6) ЛЮТЫ 2002 г.

# ВЕСТКІ

З БРАСЛАЎШЧЫНЫ

Браслаўскае краязнаўчае таварыства падрыхтавала і выпусціла першы нумар выдання «Інтэрнет-навіны». У ім змяшчаюцца матэрыялы, узятыя з беларускіх сайтаў, якія датычацца культуры, палітыкі, бягучага жыцця краіны. Плануецца выпускаць выданне раз на месяц



Вялікую цікавасць у жыхароў Браслава выклікала выстава рыцарскага ўзбраення, якая праходзіла ў лютым 2000 г. Пры адкрыцці выставы сябры клуба «Жалезны воўк» (Полацк) паказалі сцэнку «Бойка ў карчме». У маі 2002 г. «Жалезны воўк» зноў наведае Браслаў. Плануецца, што на гэты раз рыцары падрыхтуюць інсцэніроўку падання аб заснаванні Браслава.



У памяшканні гістарычна-краязнаўчага музея пачала працу выстава прысвечаная рэдкім птушкам Браслаўшчыны, падрыхтаваная сумесна з арнітолагамі Віцебскага педагагічнага ўніверсітэта.



З МЁРШЧЫНЫ

У студзені споўнілася 30 год, як Мёрам прысвоены статут горада. У 1969 годзе насельніцтва новастворанага горада налічвала каля 6 тысяч жыхароў. Зараз пражывае каля 9,5 тысяч. Імклівы рост Мёраў пачаўся пасля вайны, калі невялікі цэнтр воласці стаў райцэнтрам. У пачатку XX стагоддзя тут пражывала 145 жыхароў. За прайшоўшыя дзесяцігоддзі змяніўся выгляд горада. Пабудавана пошта, сярэдняя школа №3, школа Мастацтваў, аўтастанцыя і г.д. Зараз ідзе распрацоўка герба горада.

# ПАДДЗВІННЕ. ПАВОДКА 1931 Г.

...Увесну 1931 г. пачала небяспечна падымацца вада на Дзвіне. У рэшце рэшт яна дасягнула ўзроўню звыш 12 метраў супроць звычайнага, што не адбывалася ўжо шмат гадоў. Паплылі па Дзвіне хаты, хлявы, абадраныя дрэвы, сена і салома. У некаторых выпадках выцягвалі з вады людзей і жывёлу, якіх паводка змыла разам з хатамі і хлявамі. Больш паловы мястэчка Друя апынулася пад вадой. Паводкавыя воды Дзвіны сталі падымацца па прытоках — Друйцы, Вяце, Мерыцы, Болце і інш. На гэтых прытоках утварыліся лядовыя заторы, якія знеслі некалькі млыноў. На прытоках былі затоплены масты. Над мастом у Пуцінаве, які знаходзіцца сярод сухога сасновага лесу, вада ўзнялася на 2 метры. Амаль усе масты ацалелі дзякуючы толькі таму, што былі нядаўна пабудаваны і перад паводкай іх нагрузілі вялізнай колькасцю камянёў. У Друі вада заліла чыгуначны мост і слупы недабудаванага пастаяннага маста. Частка Друі за ракой Друйкай і тая частка, якая называецца Вусцем (паміж Друйкай і Дзвіной), аказаліся залітымі да дахаў. Ужо ў час паводкі рэквізавалі ў паштовых установах усе запасы дроту і загадалі прывязваць драўляныя дамы да старых дрэў і вялізных валуноў. Дзякуючы гэтаму многія збудаванні не былі знесены. Пасля паводкі яны асядалі на зямлю побач з падмуркамі.



Друя. Вуліца Пілсудскага (сучасная Ленінская)

Хаця потым патрабавалася перабудова, аднак матэрыял выратоўваўся. Хвалі Дзвіны прынеслі да Друі шмат лодак, званых лайбамі. На такой лодцы плавалі па вуліцах Друі з камісіяй, якая прыехала з Вільні ў асобе ваяводы Кірцікліса і пасла Піманава... Апрача ўсяго ў час паводкі выбухнула эпідэмія брушнога тыфу, бо адсутнічала якасная пітная вада. Вымушаны былі арганізаваць для хворых часовы шпіталь.

(Заканчэнне на стар.2)

# ВЕСТКІ

Знішчаны помнік "Курган Славы", які знаходзіўся ў Мёрах на паўвостраве. Насыпаны ён быў у гонар 50-годдзя ўтварэння БССР і 25-годдзя вызвалення раёна ад нямецкіх захопнікаў. Ва ўрачыстых абставінах была закладзена капсула са зваротам ветэранаў, камуністаў, камсамольцаў да нашчадкаў. Адкапаць і зачытаць яго павінны былі ў гонар 100-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Але змены, якія адбыліся за апошні час пазбавілі помнік увагі. Мясцовыя ўлады ў вузкім коле вырашылі зрабіць на месцы кургана газон. Мясцовыя жыхары абыякава аднесліся да падзеі. Курган быў зруйнаваны, а пасланне нашчадкаў трапіла ў раённы музей. Помнік "Курган Славы" быў занесены ва ўсе энцыклапедыі і даведнікі пра Мёры.



Пасля Новага года ў каторы раз змяніла назву раённая газета. Першы нумар Мёрскай раёнкі выйшаў яшчэ ў 1941 годзе пад назвай "Бальшавіцкая трыбуна". У гады вайны выходзіла падпольная газета "Кліч партызана", пазней называлася "Зара камунізма". Апошняя назва "Сцяг працы" пратрывала з 1962 года амаль 40 год.

З 1 студзеня 2002 года раённая газета выходзіць пад новай назвай – "Міёрскія навіны".

*Старадаўняй Літоўскай Пагоні
не разьбіць, не спыніць,
не стрымаць!!!*

*Максім Багдановіч*



**Гербы Польшчы, Вялікага княства Літоўскага і Стэфана Баторыя. XVI ст.**

# ПАДДЗВІННЕ. ПАВОДКА 1931 Г.

(Заканчэнне, пачатак на 1 старонцы)

Друйскае гміннае праўленне было заліта вадой да паловы вокнаў і не працавала. Электрастанцыю заліло і таму святла не было. Для хворых давялося арганізаваць часовы шпіталь. Будынак, у якім размяшчаўся шпіталь, таксама ўначы заліло вадой. Усіх пацыентаў, абсталяванне трэба было перавесці ў іншае месца. У рэшце рэшт, прыпыніліся на школьным будынку. Гэта супярэчыла ўсім гігіенічным нормам, аднак іншага выйсця не было. Падчас перавозкі хворых, якую ажыццяўлялі на плытах мясцовыя пажарныя, адна бабулька два разы звальвалася з плыта. Заледзьве ўдалося яе выцягнуць. Тым не менш, бабулька выздаравела.



Друя падчас паводкі

Вельмі небяспечная сітуацыя ўтварылася ў Лявонпальскай гміне. На карце бачна, што Заходняя Дзвіна на ўсходзе гміны цячэ амаль у мерыядыяльным напрамку, потым даволі рэзка паварочвае на захад. У перыяд найбольшага ўздыму вады ўтварыўся дадатковы паток вады на лініі Узмёны – Скакуны, які пагражаў утварыць новае русла ракі і раз'яднаць тэрыторыю гміны на дзве часткі. На шчасце, дарожная служба, якаяназірала за мастом у Пуцінаве, своечасова гэта заўважыла і папярэдзіла аб небяспецы. Каб не дапусціць непажаданай змены русла, было павалена шмат дрэў, якія ўкладавалі поперак патока. Дарэчы, значны ўчастак патока пралягаў праз сасновы лес.

Жыхары Друі, пацярпелыя ад паводкі, атрымалі матэрыяльную дапамогу ад камітэта садзейнічання ахвярам неўраджаю. Наступствы неўраджаю былі амаль ліквідаваныя, але сродкі на рахунак камітэта яшчэ паступалі. Акрамя гэтага, камунальная каса адкрыла спецыяльны крэдыт на адбудову знішчаных паводкай дамоў. Скарысталіся наступствамі паводкі і падрыхтавалі новы план забудовы той часткі Друі, якая называлася Вусцем. Да стыхійнага бедства Вусце мела густую і хаатычную забудову. Калі б там здарыўся пажар, то пажарнікі не змаглі б там разгарнуцца. Частка тамтэйшых жыхароў, уладальнікаў зусім маленькіх участкаў, павінны былі прадаць іх і будавацца зусім у іншых месцах. Паводка прымусіла шукаць сродкі на будаўніцтва ў Друі артэзіянскіх калодзежаў.

Страты, нанесеныя паводкай, асабліва ў Лявонпальскай гміне, былі велізарнейшымі. Вада нанесла на ўрадлівыя дзвінскія ілы цэлыя напластаванні пяску, часам магутнасцю да паловы метра. Некаторыя гаспадаркі па гэтай прычыне былі цалкам знішчаны, некаторыя пацярпелі меней. Аднак тых, каго не закранула стыхія, не было.

З успамінаў Браслаўскага старосты З.Янушкевіча.
(Z.Januszkiewicz. Moje Wspomnienia. Warszawa, 1995. s.106 – 108.)

*Трагічныя старонкі мінулага...*

# ВІДЗСКАЯ СПРАВА. 1940 год. Працяг.

*У № 3 "Павета" мы друкавалі матэрыял, як у Відзах улады расправіліся з ксяндзом С.Матышчыкам. Гэта расправа выклікала пратэст жыхароў мястэчка. 17 жніўня 1940 года група вернікаў колькасцю ў некалькі соцень чалавек накіравалася да райфінаддзела з патрабаваннем пакінуць святара ў спакоі. Нагадаем, што часова ўлады адступілі, але пазней подла арыштавалі ксяндза. Бальшавіцкая ўлада не дапускала іншадумства нідзе і ні ўчым, адпомсціла і ўдзельнікам акцыі пратэсту. У пачатку кастрычніка па справе "контрреволюционного выступления" было арыштавана некалькі чалавек, звычайных небагатых местачкоўцаў, з якіх улады зрабілі завадатараў-мяцежнікаў. Не мела значэння, што Савецкая ўлада павінна была абараняць, як дэкларавалася, інтарэсы такіх працаўнікоў – бедакоў, што перабіваліся нялёгкай працай.*

*Абвінавачванне прад'явілі шасці вернікам: Юзафу Навіцкаму, Ігнату Тарасевічу, Ядвізе Рымко, Канстанціну Меденецкаму, Аўгусціну Буткевічу, Уршулі Ліпскай. Аднак судовага разбіральніцтва не было. Была расправа. Пра гэта адназначна сведчаць дакументы справы, якая зберагаецца ў Маладзечанскім архіве (Ф.60, воп.3, спр.83).*

*Прадстаўляем магчымасць пазнаёміцца з некаторымі з іх. Звяртае ўвагу мова прашэнняў, багатая памылкамі. Католікі не ведалі рускай мовы і хадайніцтвы для іх складалі мясцовыя староверы, не вельмі моцныя ў стылістыцы і арфаграфіі. Афіцыйныя дакументы багатыя на канцылярызмы і памылкі.*

* * *

### З абвінаваўчага заключэння па справе № 90008 ад 24.12.1940 г.

...Новицкий И.А., Тарасевич И.К., Рымко Я.К., Меденецкий К.К., Буткевич А.А., Липская У.С. арестованы 2 октября 1940 г. Видзовским РО НКВД как участники антисоветского выступления 17 августа 1940 г. в гор.Видзы.

Следствием установлено, что 16 августа 1940 г. за неуплату культсбора и подоходного налога ксендзом Видзского приходского костёла Матыщик С.П. у него было описано движимое имущество и передано в РАЙФО Видзского р-на. Новицкий И.А., Тарасевич И.К., Рымко Я.К., Меденецкий К.К., Буткевич А.А., Липская У.С. будучи недовольны установлением Советской власти в Западной Белоруссии, повели антисоветскую агитацию и пропаганду, направленную на дискредитацию мероприятий Советской власти, вследствие чего 17 августа 1940 г. в гор.Видзы вышеуказанными лицами было организовано антисоветское выступление.

Поддавшись провокации контрреволюционных элементов, толпа верующих католиков в 200-300 человек двинулась к зданию Видзского РАЙФО с требованием возврата вещей ксендза, произвела антисоветские, контрреволюционные выпады против Советской власти с выкриками "ограбили ксендза", "возвратите имущество", "бандиты", "грабители".

Наиболее активными участниками антисоветского выступления были: Новицкий И.А., Тарасевич И.К., Рымко Я.К., Меденецкий К.К., Буткевич А.А., Липская У.С.

На основе изложенного обвиняются:

1. Новицкий И.А., 1918 г.р., уроженец г.Двинск Латвийской ССР, белорус, бывший член контрреволюционной стрелецкой организации, из крестьян, холост, грамотный, беспартийный, кустарь, до ареста проживал в гор.Видзы в том что являлся одним из активных участников а/с выступления 17 августа 1940 г. в гор.Видзы, занимался а/с агитацией, был членом к/р организации "Стрельцы" т.е. в преступлении предусмотренном статьями 72 п. "б" и 74 УК БССР.

Будучи допрошен в качестве обвиняемого Новицкий И.А. виновным себя признал.

2. Тарасевич И.К. 1901 г.р., уроженец застенка Цегельня Вилейской обл., из крестьян, поляк, беспартийный, женат, малограмотный, печник, до ареста проживавший в г.Видзы в том что, является одним из организаторов и активных участников а/с выступления 17 августа 1940 г. в гор.Видзы, т.е. преступлении предусмотренном ст.72 п. "б" УК БССР.

Будучи допрошен в качестве обвиняемого Тарасевич И.К. виновным себя признал.

3. Рымко Я.К., 1915 г.р., уроженец д.Подрукша бывшей Видзской волости, полька, из крестьян, беспартийная, малограмотная, в прошлом председатель контрреволюционной католической организации "Коло млодежи", до ареста проживавшая в г.Видзы в том что являлась одной из активных участников и организаторов а/с выступления 17 августа 1940 г. в г.Видзы, проводила а/с агитацию, к/р клевету по отношению к Советской власти, являлась председателем к/р организации "Коло млодежи", т.е. в преступлении предусмотренном ст.72 п. "б".

Будучи допрошена в качестве обвиняемой Рымко Я.К. виновной себя признала частично, но изобличена показаниями свидетелей.

4. Меденецкий К.К., 1908 г.р., уроженец г.Видзы, поляк, беспартийный, грамотный, женат, из крестьян, до ареста проживавший в г.Видзы в том, являлся одним из активных участников и а/с выступления 17 августа 1940 г. в г.Видзы, проводил а/с агитацию, выкрикивал а/с лозунги, а также состоял членом к/р католической организации "Коло млодежи", т.е. в преступлении предусмотренном стст.72 п. "б" и 74 УК БССР.

Будучи допрошен в качестве обвиняемого Меденецкий К.К. виновным себя признал частично, но изобличён показаниями свидетелей.

5. Буткевич А.А., 1894 г.р, уроженец д.Дексня Видзского района, из крестьян, поляк, беспартийный, малограмотный, женат, кустарь, до ареста проживавший в г.Видзы в том что является активным участником а/с выступления 17 августа 1940 г. в г.Видзы, распространял к/р клевету по отношению к Советской власти, занимался а/с агитацией, т.е. в преступлении предусмотренном 72 п. "б".

Будучи допрошен в качестве обвиняемого Буткевич А.А. виновным себя признал частично, но изобличён показаниями свидетелей.

6. Липская У.С. 1898 г.р., уроженка г.Могилев, полька, из крестьян, неграмотная, беспартийная, домохозяйка, до ареста проживавшая в г.Видзы в том что являлась участницей а/с выступления 17 августа 1940 г. в г.Видзы, занималась а/с агитацией, распространяла к/р слухи по отношению к Советской власти т.е в преступлении предусмотренном ст.72 п. "б".

Будучи допрошена в качестве обвиняемой Липская У.С. виновной себя признала частично, но изобличена показаниями свидетелей.

Настоящее следственное дело ... подлежит рассмотрению на Особом Совещании при НКВД СССР. (*Асобая Нарада – пазасудовы орган, які апраўдальных вырокаў не выносіў-рэд.*)



**Крыж у памяць ахвяр сталінскіх рэпрэсій каля касцёлу ў Відзах**

Товарищу прокурору Вилейской обл. г.Вилейка
от Буткевич Текли Бартломеевны проживающей
в г.Видзы, ул.Кирова 12 Видзского района
Вилейской области

Прошение.

Я уже подавала прошение тов.начальнику областного НКВД в Вилейке с просьбой о освобождении из заключения моего мужа Августина Адамовича Буткевича и сына Станислава Августиновича Буткевича арестованных органами Видзского НКВД 2.X.1940 неизвестно за что. Муж мой портной, а сын ему в этой работе помагал. Ему уже 60 лет и он больной, у его катар желудка, ему очень трудно переносить заключение, тем более невинно. Сын Станислав имеет 20 лет и все время работаим вместе на кусок черного хлеба. Я тоже осталась без средств к жизни так у меня 50 лет и здоровье плохое. Мы жили с того, что муж и сын заработали. В том что он невинны я могу подать свидетели их подписы. Потому что они кроме работы ничем не занимались и в никакой организации не состояли. Теперь обращаюсь к Вам Товарищ Прокурор с просьбой раз'яснить мне это дело. Прошу сообщить о ходе следствия и о том когда будет разбиратся их дело в суде. Прошу одновременно разрешения послать мужу и сыну тёплую одежду и пищу.

9.XII.1940 года Буткевич Текля Бартломеевна

Товарищу Михаилу Ивановичу Калинину
в Москве от Рымко Клотильды Климентьевны
проживающей в Видзах, ул Татарская 84
район Видзы, область Вилейка, БССР.

Прошение.

2 октября 1940 органы Видзской милиции пришли к нам на квартиру и сделав ревизию, во время которой ничего не обнаружили, велели дочери моей Ядвиге Карловне Рымко идти за ними на допрос в НКВД по делу ксендза. Все это случилось в связи с арестом ксендза в нашем местечке. Но моя дочь ни в какие ксендзовские дела не вмешивалась и здесь вероятно произошла ошибка, она просто пала жертвой лжи, оговора и потому прошу освободить ее из заключения. Я старая больная вдова, мне 70 лет, сама работать не могу. У нас 0,6 га земли с которой мы живем. Теперь за отсутствием дочери работа в поле стоит нетронутая, ведь она была единственная моя кормилица, теперь без неё я обречена на голодную смерть. В виду того прошу Вас рассмотреть это дело, допросить свидетелей, которых представлю по требованию и освободить из заключения мою дочь.

Видзы. 10.X.1940
За неграмотную (подпіс нечытальны)

*Падрыхтаваў К.Шыдлоўскі*

***Артыкулы***

# СПАДЧЫНА ВІЛЕНСКАГА МАСТАКА ПЁТРЫ СЕРГІЕВІЧА Ў ПРЫВАТНЫХ ЗБОРАХ У ПОЛЬШЧЫ

Пётра Сергіевіч быў свядомым беларусам і таму яго багаты творчы заробак тэматычна звязаны з беларускай праблематыкай. Ён прадстаўлены партрэтамі беларускіх дзеячаў, карцінамі па матывах твораў класікаў беларускай літаратуры, беларускімі пейзажамі. Змены ў дзяржаўнай прыналежнасці Вільні не паўплывалі на нацыянальную свядомасць Пётры Сергіевіча – беларусам ён закончыў Віленскі універсітэт, актыўна ўдзельнічаў у беларускім студэнцкім і выдавецкім руху, у час вайны тварыў ужо ў літоўскім Вільнюсе і вырашыў застацца тут і пасля вайны. У параўнанні з іншымі беларусамі, якія засталіся ў Вільнюсе, Пётра Сергіевіч і яго бліжэйшыя сваякі (сёстры) пазбеглі арыштаў і зняволення. Магчыма, ён быў патрэбны для Літоўскага дзяржаўнага інстытута мастацтваў, бо большая частка яго калег у межах рэпатрыяцыі выехала ў Польшчу. У Польшчу выехалі і сем'і самых блізкіх сваякоў мастака: брата Юзафа, сястры Алены, сям'я жонкі Станіслава, а таксама шмат якіх беларускіх дзеячаў, звязаных з Сергіевічам. Мастак падтрымліваў з імі сувязь: пісаў лісты, наведваў. Пасля вайны П.Сергіевіч спачатку працаваў захавальнікам Беларускага музея (1944–1945 гг.), пасля яго расфармавання – выкладчыкам інстытута Мастацтваў (1946–1951 гг.) і скульптарам на камбінаце "Dajle" Мастацкага Фонда Літоўскай ССР (1952–1958 гг.). У 1946 годзе стаў сябрам Саюза мастакоў Літоўскай ССР. У 1960 г. атрымаў званне Заслужанага мастака Літоўскай ССР. Увесь пасляваенны перыяд жыў на вул.Антакольскай, дзе размяшчалася і майстэрня. Пасля таго, як памерла жонка мастака Станіслава, яе сваякі з Польшчы прадалі дом. У 1996 годзе беларусы-віленчукі адкрылі на сцяне дома мемарыяльную дошку (на літоўскай і беларускай мовах) у гонар Пётры Сергіевіча...

Найбольшая частка творчага заробку Пётры Сергіевіча захоўваецца ў Вільні, у Літоўскім Мастацкім музеі, які ўзначальвае сябра мастака Рамуальдас Будрыс. Няшмат прац П.Сергіевіча знаходзіцца ў Мастацкім музеі ў Мінску, хаця сам ён даволі высока ацэнены беларускімі крытыкамі і гісторыкамі мастацтва, іншымі мастакамі. У Браслаўскім краязнаўчым музеі знаходзіцца сталая экспазіцыя, прысвечаная мастаку, дзе выстаўлены яго творы і памятныя рэчы. Некаторыя працы захоўваюцца ва ўстановах культуры Беларусі, напрыклад, у Музеі Янкі Купалы, а таксама ў прыватных зборах Літвы і Беларусі. Для таго, каб мець уяўленне аб спадчыне П.Сергіевіча, трэба было б закаталагізаваць яго працы з указаннем месца захоўвання. Дзіўна, што такі пладавіты творца, якім быў П.Сергіевіч, да таго, маючы заслугі перад трыма народамі – беларускім, польскім, літоўскім, да гэтае пары не ўшанаваны асобным альбомам. Да самага апошняга часу зусім абмінаўся такі бок творчасці мастака, як роспісы і палотны рэлігійнай тэматыкі, якія захаваліся ў касцёлах Беларусі і Літвы.

Сямейныя і сяброўскія сувязі з Польшчай пасля другой сусветнай вайны спрычыніліся да таго, што багатая спадчына П.Сергіевіча аказалася ў прыватных зборах нашай краіны. На дадзены момант удалося ўлічыць 105 карцін, якія належаць 18-ці асобам з розных гарадоў Польшчы: Шчэціна, Гданьска, Гдыні, Сопата, Кракава, Лодзі, Варшавы, Торуні, Іваврацлава. Самая вялікая колькасць карцін П.Сергіевіча (98) знаходзіцца ў сямейных зборах яго сястры Гелены Варатынскай, брата Юзафа Сергіевіча і сястры жонкі Яніны Бароўскай

***Куток калекцыянера***



Марка, прысвечаная П.Сергіевічу. 1994 г.

у Лодзі і Гданьску. У асноўным гэта партрэты членаў сям'і, а таксама беларускія і віленскія пейзажы, якія прадстаўляюць Вільню, яе храмы, родныя мясціны мастака – Стаўрова, возера Нарач і наваколле. Сярод гэтых прац асаблівай увагі заслугоўвае невядомы да гэтае пары аўтапартрэт мастака 1951 года, які належыць пляменніцы Сергіевіча Марыі Варатыньскай з Лодзі. Пазнаёміцца з гэтымі працамі ўдалося дзякуючы галоўным чынам пляменніку мастака Здзіславу Сергіевічу, а потым пляменніцы Марыі Варатыньскай і светлай памяці Ірыне Лазарак, а таксама пляменніцы Станіславы-Аліны Ідзікоўскай. Усе яны з вялікай павагай адносяцца да творчасці Пётры Сергіевіча. У іх зборах апрача прац мастака захаваліся яго здымкі, карэспандэнцыя і фотаздымкі твораў розных перыядаў жыцця. Ва ўласнасці Аліны Ідзікоўскай знаходзіцца альбом публікацый аб Пётры Сергіевічы і яго творчасці, пачынаючы ад міжваеннага часу ажно да 90-х гадоў.



**П.Сергіевіч. Партрэт Максіма Танка. 1952.**

Складана было дабрацца да спадчыны П.Сергіевіча, якая апынулася па-за межамі сям'і. На дадзены момант удалося знайсці толькі 10 прац мастака, у сямейных зборах асоб калісьці звязаных з ім сяброўскімі польска-беларускімі кантактамі. Яны маюць не толькі мастацкую каштоўнасць, але і з'яўляюцца гістарычнымі крыніцамі.

Пётра Сергіевіч імкнуўся на сваіх партрэтах увекавечыць вобразы дзеячаў беларускага нацыянальнага руху і сваіх сяброў. На жаль, невядома, дзе зараз знаходзяцца партрэты Вацлава Іваноўскага, прафесара, бурмістра Мінска падчас акупацыі; Ганны Сухой, студэнткі з Беларускага студэнцкага саюза і інш. У 1970 г. ў біяграфічнай манаграфіі, прысвечанай Сергіевічу, Арсень Ліс напісаў: "...на жаль, як аб названых жаночых партрэтах (вільнянак Пракаповіч, Навіцкай, Багушэвіч, Бялкоўскай, Янкоўскай, Блажэвіч, Махнач, Лук'яновіч – пералік А.Глагоўскай), па той самай прычыне нельга што-небудзь сказаць і аб многіх мужчынскіх партрэтах Сергіевіча перадваенных гадоў, аб партрэце Неканды-Трэпкі, Бабенскага, Жынды, Дамброўскага, Паплаўскага, Лавэйкі, Зарыцкага, Гардзевіча і інш. Апынуўшыся ў прыватных калекцыях, на руках заказчыка, яны мелі самы розны лёс. Многія з іх пасля вайны былі вывезены заказчыкамі ці іх сваякамі ў Польшчу..." Сярод згаданых партрэтаў удалося знайсці два: партрэты Антона Неканды-Трэпкі і Юльяна Паплаўскага, напісаныя ў 1937 годзе.

Першы партрэт знаходзіцца ў Марка Неканды-Трэпкі, унука Антона, са Шчэціна. На партрэце прадстаўлены вядомы ў міжваенны час дзеяч асветы ў Вільні: дэкан факультэта электрычнасці дзяржаўнай сярэдняй школы тэхнікі, настаўнік фізікі і дырэктар Беларускай гімназіі, які ў кастрычніку 1939 года быў арыштаваны НКУС і памёр у Казахстане ў 1942 годзе. Яго жонка, пасля вайны пакідаючы Вільню, забрала з сабой партрэт мужа. Знайшла яго выпадкова, не ведаючы аб яго існаванні, падчас збору біяграфічных матэрыялаў пра А.Некандру-Трэпку. Партрэт Юльяна Паплаўскага знаходзіцца ў Сопаце ў яго брата Станіслава, лекара-рэўматолага. Пётра Сергіевіч падтрымліваў цесныя сувязі з сям'ёй Паплаўскіх, вучыўся разам з братамі Станіслава Янам і Адольфам. Мастак часта гасцяваў у доме Паплаўскіх і іх маёнтку Калін пад Вільняй. Адольф і Станіслаў, звязаныя з Арміяй Краёвай, пасля вайны былі арыштаваны і высланы ўглыб Расіі. Іх бацькі выехалі ў Польшчу. Пётра Сергіевіч, які знаходзіўся ў Вільні, прыглядаў за іх маёмасцю і з'яўляўся "кантактнай скрынкай" паміж разлучанымі членамі сям'і Паплаўскіх, паміж Расіяй і Польшчай. Адольф Паплаўскі, які шмат гадоў працаваў у ліцэі скульптуры ў Гдыні-Арлове, у сваіх успамінах "12 гадоў катаргі" з удзячнасцю напісаў аб беларускім мастаку.

Аказалася, што асобы, якія маглі ведаць мастака і дапамагчы ў пошуку яго спадчыны, у асноўным ужо не жывуць, а іх сем'і не заўсёды ўяўлялі, кім быў П.Сергіевіч, не прыдавалі асаблівага значэння яго творам. У 1993 годзе збірала матэрыялы пра Альбіна Стэповіча. Яго пляменнік Вітальд, прафесар Гданьскай палітэхнікі, аднойчы запытаў мяне, ці не ведаю, хто такі П.Сергіевіч. Над яго працоўным сталом вісіць карціна з зімовым пейзажам, на якім ёсць аўтограф аўтара на беларускай мове. Паводле сямейнай традыцыі, гэта быў нейкі бедны мастак, які ў час вайны меў выставу ў Вільні і бацькі, каб падтрымаць яго, купілі карціну.

Шукала карціны Сергіевіча ў сем'ях беларускіх дзеячаў міжваеннага часу, якія апынуліся ў Польшчы. Так удалося знайсці творы мастака ў сем'ях Юзафа Найдзюка (Александровіча) з Інаўроцлава, Мар'яна Пецюкевіча з Торуні, Юрыя Туронка з Варшавы, Тэадора Куніцкага з Гданьска, Стэфана Ярмалоўскага з Гданьска. Безумоўна, прац П.Сергіевіча ў Польшчы болей і таму пошук не прыпыняецца. Напрыклад, трэба шукаць працы мастака ў біскупскай курыі ў Беластоку, бо Сергіевіч сябраваў з ксяндзом Сапоцькам і хутчэй за ўсё маляваў яго партрэт. Магчыма, некаторыя малюнкі могуць захоўвацца ў касцёлах Беласточчыны. Бо, напрыклад, нечакана ўбачыла чатыры карціны Сергіевіча на біблейскія тэмы ў касцёле Ваўкавыска.

Варта згадаць, што ў архіве беларускага тыднёвіка "Ніва" у Беластоку захоўваюцца фотаздымкі некаторых прац мастака, якія публікаваліся ў гэтым выданні і ў "Беларускім календары". Беларускія журналісты з Польшчы (Сакрат Яновіч, Віктар Швед, Юры Туронак) наведвалі Сергіевіча ў Вільні і потым рыхтавалі аб ім публікацыі.

Творы П.Сергіевіча, яго карэспандэнцыя могуць знаходзіцца ў калекцыях віленскіх мастакоў, з якімі ён кантактаваў, артыстаў, якія пасля вайны пераехалі ў Торунь. У 1968 годзе П.Сергіевіч, адзіны з былога СССР, удзельнічаў у выставе творчага аб'яднання "Zachęta" у Варшаве, на якой прадставіў 7 алейных карцін і 7 партрэтаў, выкананых крэйдай. Большасць прац тады ў мастака набылі. Працу "Селянін" закупіла Міністэрства культуры і мастацтва. Іншыя трапілі ў рукі прыватных асоб.

У 2002 годзе выставу прац Пётры Сергіевіча рыхтуе музей скульптуры імя Альфонса Карны ў Беластоку. Магчыма, гэта дапаможа ў далейшых пошуках твораў мастака.

Пакуль жа пошукі далі магчымасць улічыць больш 100 карцін П.Сергіевіча ў Польшчы, удакладніць некаторыя невядомыя моманты біяграфіі. Пра некаторыя з іх мастак не мог напісаць у аўтабіяграфіі 1960 года ў варунках савецкага ладу. Напрыклад, аб удзеле ў савецка-польскай вайне 1920 года на польскім баку, аб прычынах уходу з інстытута мастацтваў у 1951 г. (падчас заняткаў са студэнтамі з-пад адзення высунуўся крыжык), аб рэлігійных творах.

*Алена Глагоўская, выкладчыца кафедры беларускай культуры Беластоцкага ўніверсітэта. г. Гданьск.*

# Шляхам да вышынь мастацтва

**(урывак з рукапісу нарыса віленскага журналіста Янкі Шутовіча «Петра Сергіевіч». 1963 г.)**

Творчая прадукцыя Пётры Сергіевіча прадстаўляецца даволі эфектна. Рэгістрацыйны сшытак – свайго роду інвентарная кніжка, – у якім мастак праводзіў у хуналогічным парадку запісы напісаных ім твораў, – падае цыфру 603. Гэта не малы лік твораў. У кнізе-сшытку прадстаўлены ўсе віды творчасці – партрэты, кампазыцыі, пейзажы. Толькі адных рысунковых партрэтаў выкананых з натуры ў гадах 1928 - 1957 вуглем-карандашом лічыцца 160. Апроч таго, мастак напісаў (на заказ) алейнымі краскамі таксама з натуры – 140 партрэтаў дзяржаўных, грамадскіх і культурных дзеячоў, і прыватных грамадзян. Між іншым, у Літоўскай Акадэміі навук знаходзіліся партрэты Леніна і Сталіна, выкананыя мастаком у 1940 г. Яны, нажаль, знішчаны ў вайну. У дзяржаўным мастацкім музэі ў Мінску знаходзіцца партрэт Федзі, брата мастака, напісаны ў 1945 г. Партрэт Янкі Купалы з жонкай напісаны ў 1955 г. знаходзіцца ў прыватных зборах нябожчыцы Купаліхі – незабыўнай Уладыславы Францаўны Луцэвіч.

Багата прадстаўлена ў спісе кампазыцыя. Маем тут напісаных масленымі краскамі 96 палотнаў розных памераў. Пісаны яны пераважна ў паваенным часе. Нікаторыя з іх закуплены рознымі музэямі і дзяржаўнымі ўстановамі. Літаратурны музэй Янкі Купалы ў Мінску закупіў альбо атрымаў у падарунку ад аўтара 7 карцін: “А хто там ідзе?” (у двух варыянтах), “Званар”, “А ты сірацінка, жыві”, “Янка Купала ў карчме на Даўгінаўскім гасцінцы чытае творы сялянам”, карціны-ілюстрацыі да твораў Купалы: “Гусляр” – ілюстрацыя да паэмы “Курган”, дзьве ілюстрацыі да паэмы “Яна і я”. Драматычны тэатр ім.Янкі Купалы ў Мінску закупіў адну карціну: “Званар”, Гродненскі краезнаўчы музэй – адну: “Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1963 г.” (другі экзэмпляр), першы экзэмпляр знаходзіцца ў Вільні. У Віленскім дзяржаўным мастацкім музэі знаходзяцца карціны: “Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў 1863 г.”, “Партызаны ў кузні”, “Рыбакі” (на возеры Богінь), “Ачыстка поля ад валуноў”, у віленскім рэвалюцыйным музэі – “Дэманстрацыя безработных у Каўнасе ў 1925 г.”, у Міністэрстве земляробства Літ.ССР – адна: “Мэльёрацыя”.

Апроч аснаўных жанраў творчасці мастака-партрэта, гістарычнай і бытавой кампазыцыі, у якіх выдатна праявіўся талент мастака, мастак напісаў з натуры 96 пейзажаў. З іх таксама нікаторыя закуплены дзяржаўнымі ўстановамі і прыватнымі асобамі. Алейны пейзаж “Панарама г.Вільнюс”, напісаны ў 1951 г. закуплены ўрадавым прадстаўніцтвам Літ.ССР у Маскве. У пейзажным майстэрстве мастак паказаўся таксама выдатна. Апроч таго мастак напісаў з натуры 18 нацюрмортаў.

Разглядаючы ў агульным абрысе тэматыку творчасці таленавітага мастака, трэба звярнуць увагу на аснаўны мамент, на аснаўную рысу яе – на ейную лучнасць з духовай і соцыяльнай прыродай мастака, з ягонай псыхікай. Сам мастак па прыродзе пачуццёвы. Ён шчыра, непасрэдна, уражліва ўспрымае об'ектыўны свет, – навакольную прыроду, людзей. А гэтыя фактары об'ектыўнага свету – прырода і людзі – сваім чарадом, як у люстры адбіваюцца ў ягонай свядомасці, у ягонай душы і сэрцы, больш таго, – яны вызначаюць ягоную свядомасць, і творча пераробленыя – знаходзяць мастацкае ўвасабленне... На асобе нашага мастака найлепш і найдакладней правяраецца аснаўны марксісцка-філасофскі тэзіс: быт акрэслівае свядомасць.

Мы ўжо прадставілі пабежна жыццё і вучобу мастака. Вясковы хлопец, сын батрачкі, Сергіевіч сваю пару “залатога” дзяцінства і юнацтва правёў на вёсцы, у асяроддзі беларускага працоўнага сялянскага люду, у абставінах беднасці і галечы. Ён ад дзяцінства кроўна звязаўся з гэтым людам, жыў і жыве ягонымі матэрыяльнымі і духовымі інтарэсамі і запатрабаваннямі. Родная вёска Стаўрова, з поэтычна-красачным наваколлем, з добрымі, простымі людзьмі, – вось тыя прыродныя этнічныя і этнографічныя элементы, якія ўкараніліся ў душы мастака, у ягонай свядомасці, жывілі яе і знаходзілі тэматычны і мастацкі выраз у ягонай творчасці. Сялянская псыхіка мастака, ягоны духоўны путраны свет гарманійна адпавядае духоваму вобліку працоўнага народу, з якога мастак выводзіцца.



П.Сергіевіч. Аўтапартрэт.

Адчуўшы ў сябе прыродныя здольнасці да мастацтва, Сергіевіч хапаецца за алавік, за акварэльныя хварбы, каб нарысаваць ці намаляваць партрэты блізкіх ягонаму сэрцу людзей – беларускіх сялян, рамеснікаў. Рысуе-малюе беспасрэдна з натуры з вялікім упорствам і энтузыязмам і ягоная мастацкая прадукцыя выходзе шчырая, натуральная, выразная, экспрэсыйная.

Узброіўшыся тэорэтычнымі ведамі і набытай падчас практычных заняткаў у прафэсарскіх майстроўнях тэхнікай, мастак стварае выдатную галерэю беларускіх сялянскіх тыпаў. Ягоныя тыпажныя рысункі сялян і рамеснікаў, а таксама рысункі і пэйзажныя замалёўкі – гэтаж першая мастацкая прадукцыя, у якой мастак удала ўвасобіў сялянскую працоўную Беларусь і якая сталася аснаўным матарыялам, скарыстаным ім у далейшай творчасці, у композыцыях.

Ад рысунку мастак паступова пераходзе да партрэту і да болей складанага жанру – композыцыі. Натуршчыкамі ў партрэце пераважна тыяж беларускія сяляне, рамеснікі і выхадцы з вёскі – прадстаўнікі беларускай працоўнай інтэлігенцыі. Няважна, хто як быў адзеўшыся, – ці ў зрабніцу, ці ў паркаль, у кажух ці сукно, даматканае ўбранства, ці фабрычна-заводскае... здаровыя ці калекі, стройныя ад прыроды, ці пакрыўджаныя ёю, – мастак, дэмократ-гуманіст усіх іх любіў, ува ўсіх іх бачыў душэўнае хараство. Калі я раз звярнуў увагу мастака, аглядаючы партрэты-рысункі алавіком, што сярод іх ёсць многа людзей фізічна ўродлівых, як карыкатурнага і паталагічнага выгляду, што паказ іх для публічнага агляду стварае ўражанне ня зусім дадатняе пры ацэнцы Беларусаў, як антрапалагічнага тыпу, то ён на гэта адказаў: бачыш, браток, яны для мяне вельмі цікавыя з мастацкага пункту гледжання, знаміты Рэмбрант старанна ж такія тыпы выпшуківаў і быў здаволены, калі такія знаходзіў. Вось як!..

*Друкуецца з захаваннем аўтарскага правапісу і арфаграфіі.

*Машынапісны варыянт рукапісу зберагаецца ў фондах Браслаўскага музейнага аб"яднання

*Славутыя землякі*

# Прафесар матэматыкі з Дзісны

Знаходзячы раз-пораз імёны славутых людзей, паходзячых з нашых мясцін, яшчэ раз пераконваешся, што не такі ж і правінцыйны наш край. Ды толькі бяда наша, што не ведаем і не цэнім тое што маем, а тое, што ведаем, – не ўшаноўваем. Адно з такіх малавядомых імён – прафесар матэматыкі Раман Табэрскі.

Нарадзіўся ён у 1927 годзе ў в.Чурылава. Бацька быў сяржантам-пагранічнікам. Дзяцінства Рамана прайшло ў Дзісне. Тут ён скончыў пачатковую школу, паступіў вучыцца ў Дзісенскую гімназію, але пачалася вайна, якая перакрэсліла шчаслівае дзяцінства. Ягоны бацька, каб пазбегнуць палону, са сваім атрадам накіраваўся ў Латвію, дзе ў 1940 г. быў арыштаваны органамі НКУС і вывезены ў Расію. У 1942 годзе ён уступіў у армію Андэрса, ваяваў з фашыстамі ў Афрыцы і Італіі. Яго жонка разам з дзецьмі была таксама вывезена ў 1940 годзе ў Казахстан. Нягледзячы на галечу, голад, цяжкую працу, Раман працягвае вучобу ў сярэдняй школе (польскай) г.Сяміпалацінска, дзе атрымлівае ў 1946 годзе атэстат сталасці. У гэтым жа годзе іх сям'я вывозіцца ў Польшчу. Пасяляюцца ў горадзе Познані, з Англіі да іх вяртаецца бацька. Восенню Раман паступае на матэматычны факультэт Познаньскага ўніверсітэта, які ў 1951 годзе паспяхова заканчвае, атрымлівае тытул магістра філасофіі ў сферы матэматыкі. Навуковай дзейнасцю пачынае займацца яшчэ з 1949 года пад кіраўніцтвам прафесараў Уладыслава Орліча і Анджэя Алексіевіча. У 1959 годзе абараняе доктарскую дысертацыю. У 1984 годзе атрымлівае тытул прафесара. Уся яго навуковая дзейнасць звязана з універсітэтам імя А.Міцкевіча ў Познані.

Быў кіраўніком аддзелаў у інстытуце матэматыкі і інфарматыкі ўніверсітэта, членам Сената ўніверсітэта, кіраўніком цэнтра па падрыхтоўцы дактарантаў матэматыкі. Раман Станіслававіч актыўна супрацоўнічаў з рэдакцыяй матэматычнага часопіса "Функцыі Апроксіматыкі", уваходзіў у яго рэдакцыйны камітэт. Падчас сваёй навуковай дзейнасці напісаў звыш ста навуковых прац у сферы вышэйшай матэматыкі, матэматычнага аналіза, асаблівасцей шэрагаў Фурыера, апраксімацыі функцый змены многазначнасцей. Пад яго кіраўніцтвам было падрыхтавана 350 магістарскіх прац, дзевяць доктарскіх дысертацый. У сваёй навуковай дзейнасці ён працягваў традыцыі матэматычнай школы Віленскага ўніверсітэта, садзейнічаў росквіту польскай матэматычнай школы.

За навуковую і выкладчыцкую дзейнасць неаднаразова ўзнагароджаны Залатым крыжам заслугі, Кавалерскім крыжам, афіцэрскім крыжам Адраджэння Польшчы, медалямі Камісій Народнай Адукацыі, Ганаровым медалём горада Познані.

Раман Табэрскі быў патрыётам і таго края, дзе ён нарадзіўся і ўзгадаваўся, прымаў удзел у дзейнасці таварыства выпускнікоў Дзісенскай гімназіі імя кс.Г.Пірамовіча. 8 жніўня смерць абарвала яго дзейнасць. Пахаваны на могілках Юнікоўскага на Алеі заслужаных, дзе хаваюць самых выдатных людзей г.Познані.

***Вітаўт Енмалёнак**, настаўнік СШ№3 г.Мёры,*
*кіраўнік гуртка «Арганаўты мінулага»*

*Цытата нумару*

## Грымаса расійскага імперскага шавінізму

...неблагоприятные обстоятельства в соединении с неплодородием почвы и сырым климатом сделали белоруссов самым забитым, малорослым и болезненным племенем русского народа. Белорусс туп, простоват и суеверен. Белорусское наречие неблагозвучно с заметным влиянием польского языка. Лучшими качествами белорусса является любовь к родной стороне и преданность православной вере, которой он не изменил, несмотря на все старания поляков.

...литовское племя из всех европейских племен самое близкое к славянскому. Прежние язычники, литовцы, под влиянием поляков, приняли католичество, много обычаев и самый язык. Мирные и трусливые литовцы сохранили только свою одежду и некоторые обычаи.

П.Белюха. Учебник географии Российской империи. М. 1895, с.79-80.

# Ліст Максіма Танка

Адным з сяброў Пётры Сергіевіча быў выдатны беларускі паэт Максім Танк. У экспазіцыі Браслаўскага музея экспануецца фотакопія партрэта М.Танка працы П.Сергіевіча з архіва мастака, а таксама рукапіс верша паэта "Перад партрэтамі Пётры Сергіевіча", спецыяльна дасланы М.Танкам у Браслаў. Музей зберагае некалькі лістоў М.Танка ў Браслаў. Прапануем увазе чытача адзін з іх.

*Мінск, 17/XII, 90 г.*

*...Я Вам вельмі ўдзячны за нумары "Браслаўскай звязды", у якіх знайшоў шмат цікавых звестак пра П.Сергіевіча, Я.Драздовіча, І.Сікору. Апошнія гады свайго жыцця П.Сергіевіч са сваёй жонкай часта праводзілі на Нарачы, дзе ён любіў працаваць, адпачываць, хадзіць у грыбы. Аднойчы – відаць, праездам – заглянуў на мой "хутар" і Іван Паўлавіч, які раіў мне і майму суседу – М.Лынькову, як лепш даглядаць толькі што пасаджаныя намі яблыні. Потым я прыгадаў у сваім вершы пра гэту незабыўную нашу сустрэчу:*

*"Вы яшчэ не прышчапілі свае яблыні?"*
*Як шкада, што Сікора – стары садавод*
*Аб якім у нас казкі легенды складалі,*
*На змярканні аднойчы згубіў акуляры*
*І забрыў не дамоў, але ў рай,*
*Або мо на другую планету,*
*І цяпер нельга з ім параіцца.*

*А ён, помню, хацеў падарыць чаранкі,*
*Прышчапіўшы якія, мы мелі б у садзе*
*яблыкі,*
*Налітыя песнямі, звонам пчаліным,*
*Чырванню ўсходаў і захадаў сонца,*
*Пахам неба, ўспамінамі.*

*Можа, пры дапамозе касмічных ракет*
*Нам яшчэ з ім удасца звязацца.*
*Таму абы-якімі гатункамі чаранкоў*
*Мы не спяшаемся прышчэпліваць яблыні.*
*(1957 г.)*

*У адным са сваіх лістоў П.Сергіевіч піша пра вечар у яго майстэрні, на якім я чытаў свае вершы. Помню, пасля гэтага вечара ён напісаў некалькі цікавых партрэтаў, у тым ліку і выдатны партрэт "Настаўніцы" – маёй будучай жонкі – Любоў Андрэеўны, які пасля выстаўкі ў Мінску нам падарыў.*

*Я часта думаю, колькі ўжо мінула гадоў з тых нашых сустрэч! Зараз наракаю сябе, што нічога пра гэта не запісаў, бо, як кажуць кітайцы: нават самае горшае чарніла лепш за самую лепшую памяць.*

*З сардэчнымі прывітаннямі і навагоднімі віншаваннямі*

*Максім Танк*

## Гартаючы старыя газеты

г.Видзы. Новоалександровский уезд. 15 января 9 неизвестных, замаскированных и вооруженных револьвером, явились в имение Леонполь, принадлежащий В.Ю.Зандер. Ворвавшись в контору имения они крикнули служащим: "Руки вверх!". Испуганные служащие не оказали ни малейшего сопротивления. Экспроприаторы перевязали их и начали хозяйничать. Перевернув вверх дном всю контору, они забрали, как говорят, наличных денег до 800 руб. и скрылись. В тот же день в другом имении "Видзский двор" ограблен служащий на 500 рублей. Помещицы В.Ю.Зандер во время ограбления не было в имении. Она в это время находилась в г.Видзах.

*Северо-Западный телеграф. 1909. 25 января.*

* * *

г.Видзы. Крестьянин Иларион Горбунов, проезжая по улице, наехал на старую еврейку Эйгенгейлер 65 лет и расшиб ее. Эйгенгейлер упала на мостовую и, не приходя в сознание, умерла спустя несколько минут.

*Северо-Западный телеграф. 1914. 17 июня.*

* * *

г.Видзы. 23 августа в 3 часа ночи здесь произошел пожар, уничтоживший почтово-телеграфную контору, помещенную в доме Т.Строковского, рядом стоящие флигель, сарай и погреб, принадлежавшие Строковскому и сараи А.Оболевича, П.Кузнецова. Пожар начался в помещении занимаемом почтово-телеграфным чиновником и почтальоном. Причины не выяснены. Казенные деньги и почтовые марки спасены. Дома Т.Строковского были застрахованы в 1000 руб.

*Северо-Западный телеграф. 1907. 8 сентября.*

## Легенды і паданні роднага краю

### Паданне пра цыганёнка

Аднойчы, вельмі даўно, у вёсцы Запруддзе, жыў цыганёнак. Яму было гадоў дзесяць. Быў ён сіратой. Каб не памерці з голаду наняўся ён пастушком у адну сям"ю. Аднойчы, калі ён пасвіў кароў і авечак, то убачыў камень. Чамусьці спатрэбілася цыганёнку адкуліць той камень. Калі ён гэта зрабіў, то ўбачыў над камянём бутэлечку з крыжыкам у якой былі залатыя манеты. Пастушок усе грошы забраў сабе. Пасля гэтага з ім пачалося тварыцца невядомае. Кожную ноч да яго пачаў прыходзіць чорт. Прыдзе і вядзе яго за сабой. Цягнулася гэта вельмі доўга. Урэшце рэшт цыганёнак стаміўся. Пайшоў ён у касцёл і там наведаў пра ўсё ксяндзу. Святар параіў вярнуць бутэлечку з грашыма на месца, дзе ўзяў. Цыганёнак так і зрабіў. З таго часу больш ніхто не турбаваў яго па начах і дажыў ён спакойна ды глыбокай старасці.



Легенду расказала Васьковіч Вольга Іванаўна, жыхарка в.Ахрэмаўцы.
Легенду запісаў вучань 2 «А» класа СШ №3 г.Браслава Васьковіч Рома

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл./ факс 21-4-28
E-mail: bkt@bsmus.lingvo.vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко, Людміла Пупіна

Выдадзена на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» (Наваполацк) пры падтрымцы Віцебскага адзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»